# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
і Беларускага таварыства дружбы і культурнай
сувязі з замежнымі краінамі

## ЗМЕСТ



• № 1 (37) • СТУДЗЕНЬ • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by/mab/k&d.html**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.**
**Мастак А. Кіпрэнскі. 1827.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **30 тысяч рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — 3015205833015**
**у філіяле “Акадэмічны” КБ “Поиск”, г. Мінск, код 730;**
**валютны — мяняецца.**

## ДА ЮБІЛЕЮ ВЫЙДЗЕ ЗБОРНІК

1999 год абвешчаны Годам А. С. Пушкіна. Да 200–гадовага юбілею з дня нараджэння класіка рускай літаратуры Нацыянальны навукова–асветны цэнтр імя Ф. Скарыны рыхтуе зборнік “А. С. Пушкін і Беларусь”. Дзякуючы цікаваму даследчыцкаму матэрыялу беларускіх навукоўцаў, краязнаўцаў, журналістаў, пісьменнікаў шырокаму колу чытачоў адкрыюцца раней малавядомыя старонкі жыцця і творчасці А. С. Пушкіна і яго сувязей з нашай Бацькаўшчынай, якія ўпершыню сабраны разам. Зборнік складаецца з некалькіх раздзелаў. “Беларусь у жыцці і творчасці А. С. Пушкіна” — у гэтым раздзеле змешчаны артыкулы Сямёна Букчына, Давіда Сімановіча аб падарожжах паэта праз гарады і вёскі Беларусі. Артыкул нашага вядомага пушкіназнаўца Ігара Сцяпуніна пра прататып Уладзіміра Дуброўскага дапоўняць найноўшыя даследаванні журналісткі Людмілы Сяліцкай пра беларускіх нашчадкаў шляхціца Паўла Астроўскага. Прыводзяцца ўспаміны А. П. Распопава аб сустрэчы А. С. Пушкіна ў Магілёве ў 1824 г. Як звязана Арына Радзівонаўна з Кобрыншчынай? Аб гэтым артыкул Галіны Манец.

Наступны раздзел — “Нашчадкі А. С. Пушкіна ў Беларусі” — адкрывае артыкул дырэктара Музея гісторыі Магілёва Ігара Пушкіна “Пушкіны. Адкуль яны?”. Нашчадкі паэта жылі ў Навагрудку, на Рудабельскай зямлі, у Югаліне Івацэвіцкага раёна, у вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна… Пра гэта артыкулы Цімоха Ліякумовіча, Сяргея Грахоўскага, Георгія Чыгіра і іншых аўтараў. Шмат матэрыялаў прысвечана творчаму ўздзеянню А. С. Пушкіна на беларускіх паэтаў і іх перакладам пушкінскіх твораў на родную мову. З артыкула Міколы Паграноўскага (раздзел “А. С. Пушкін і беларускае мастацтва”) мы даведаемся пра беларускага і польскага мастака Валенція Ваньковіча, які ў 1828 г. напісаў пушкінскі партрэт, што бясследна знікнуў. Ушанаванню памяці паэта і пушкінскім мясцінам прысвечаны астатнія матэрыялы. Будуць таксама змешчаны лепшыя вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя А. С. Пушкіну. Унікальную частку кнігі ўяўляе сабой складзеная аўтарам гэтых радкоў і дапоўненая супрацоўнікамі Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна бібліяграфія “А. С. Пушкін у друку Беларусі”, якая налічвае прыкладна 1750 інфармацыйных адзінак.

Змяшчаем адзін з артыкулаў будучага зборніка.

***Таццяна Махнач**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

*Ігар Сцяпунін (Мінск)*

# ПУШКІНСКІ ЮБІЛЕЙ 1899 г. У МІНСКУ

Пушкінскія юбілеі для беларускага народа заўжды былі вялікім святам. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НА РБ) захаваліся матэрыялы аб святкаванні на беларускай зямлі стогадовага юбілею з дня нараджэння А. С. Пушкіна. На Віцебшчыне і Магілёўшчыне, як паведамлялі "Витебские губернские ведомости", усё насельніцтва як бы "ўз'ядналася ў адно неразрыўнае цэлае", каб належна ўшанаваць памяць вялікага рускага паэта, "святкаваў увесь народ — ад малапісьменнага да адукаванага, ад дзіцяці да старога" (1). Святкаванне стогадовага пушкінскага юбілею — адна з яркіх старонак у гісторыі культурнага жыцця Мінска. У падрыхтоўчы да юбілею перыяд у горадзе ўзнікла Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў — "цэлае грамадства людзей адукаваных, развітых і натхнёных жаданнем згуртавацца разам для культурнай працы на карысць народа і славы Беларусі" (2). Адным з арганізатараў яго выступіў старшы рэвізор Мінскага губернскага акцызнага ўпраўлення А. Ф. Аляксандраў, сям'я якога падтрымлівала сяброўскія адносіны з вялікай украінскай паэтэсай Лесяй Украінкай. У Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў уваходзілі прадстаўнікі розных грамадскіх плыняў, у тым ліку рэвалюцыйна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, члены мінскай групы РСДРП, а сярод іх С. К. Мяржынскі, сябар Лесі Украінкі, адзін з першых прапагандыстаў марксізму на Беларусі. Аднак у 1899 г. таварыства займалася мірнай асветніцкай дзейнасцю. Яго ўдзельнікі наладжвалі спектаклі, у перспектыве намерваліся заснаваць у горадзе агульнадаступную чытальню, бібліятэку, школы музычную і жывапісу. Таварыства давала мінчанам "магчымасць за недарагую плату атрымліваць эстэтычныя веды".

У сакавіку 1899 г. пры таварыстве ствараецца спецыяльная камісія з прадстаўнікоў розных устаноў для выпрацоўкі праграмы святкавання юбілею А. С. Пушкіна. Сябры камісіі распаўсюджвалі таксама творы паэта, у прыватнасці, асобнае выданне з ілюстрацыямі "Сказки о рыбаке и рыбке", якая карысталася ў Беларусі асаблівай папулярнасцю. Вядомы запісы гэтай казкі на беларускай мове, зробленыя ў 1888 г. інспектарам беластоцкага вучылішча М. П. Авенарыусам у розных паветах Мінскай губерні (4).

Камісія імкнулася задаволіць просьбу ўсіх навучальных устаноў Мінскай губерні асігнаваць сродкі на набыццё твораў А. С. Пушкіна і яго партрэтаў для раздачы навучэнцам, таму што, як высветлілася, "вучні не знаёмы з партрэтамі Пушкіна і ў вучнёўскай бібліятэцы няма твораў гэтага пісьменніка". Камісія распаўсюджвала ў вучылішчах Мінскай губерні некаторыя навуковыя выданні, напрыклад, набор з 15 брашур пад назвай "Иллюстрированная пушкинская библиотека", выдадзеная Ф. Ф. Паўлянковым. Кожная брашура ўключала асобны твор Пушкіна і яго партрэт (5).

Камісія таварыства намервалася выдаць паштоўкі ў памяць Пушкіна з малюнкамі вядомых рускіх мастакоў. Каб арганізаваць публічную лекцыю пра Пушкіна ў Мінску, камісія звярнулася ў Маскоўскае лекцыйнае бюро. Прачытаць лек-

цыю пра паэта згадзіўся прыват-дацэнт Маскоўскага універсітэта, вядомы пушкіназнаўца І. І. Іваноў. У сваіх навуковых працах ён абвінавачваў велікасвецкае грамадства ў гібелі Пушкіна, гаварыў аб цеснай сувязі паэта з яго сябрамі-дзекабрыстамі. Іваноў прыслаў у Мінск план сваей лекцыі, якую меркавалі правесці 26 мая ў гарадскім тэатры для вучняў сярэдніх навучальных устаноў (бясплатна). Але лекцыя не была прачытана, таму што якраз у гэты дзень І. І. Іваноў павінен быў выступаць з прамовай на пушкінскім сятткаванні ў Маскве. Іваноў выказаў жаданне прачытаць лекцыю ў Мінску ў іншы час: у чэрвені або жніўні 1899 г. Але па распараджэнню мінскага генерал-губернатара князя М. М. Трубяцкога лекцыя была забаронена, дазвалялася абмежавацца на ўрачыстым пасяджэнні толькі "вымаўленнем прамовы" пра Пушкіна. "Скласці прамову" было даручана члену камісіі А. Ф. Хаванскаму (6).

10 сакавіка камісія звярнулася да Мінскага гарадскога грамадскага ўпраўлення з хадайніцтвам аказаць ёй "сваё асвечанае садзейнічанне" і ўступіць памяшканне тэатра з электрычным асвятленнем "для правядзення 25, 26 і 27 мая свята ў гонар А. С. Пушкіна". Камісія таксама ставіла пытанне аб адкрыцці ў Мінску Публічнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, каб "тым самым назаўсёды захаваць у памяці народа імя вялікага рускага паэта". Уздымалася і пытанне аб каштарысе на выпісванне бюста Пушкіна і пастамента для яго (7).

**Ігар Сцяпунін** — кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў Ленінградзе ў 1926 г. Закончыў Кіеўскі дзяржаўны універсітэт імя Т. Р. Шаўчэнкі ў 1950 г., а затым — аспірантуру Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1955 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Советский исторический роман о начальном периоде борьбы за объединение Руси (роман С. П. Бородина "Дмитрий Донской")". Выкладаў рускую літаратуру ў Мінскім дзяржаўным педагагічным універсітэце.

Для правядзення ўсіх гэтых мерапрыемстваў адкрываецца падпіска на збор ахвяраванняў у гонар юбілею. Актыўны ўдзел у гэтай кампаніі прымалі ўсе навучальныя ўстановы Мінскай губерні, жыхары павятовых гарадоў Міншчыны, не толькі гараджане, але і сяляне, служачыя Лібава-Роменскай чыгункі, афіцэры і салдаты армейскіх палкоў, што кватаравалі ў Мінскай губерні. Жыхары Слуцка і Мазыра, нягледзячы на тое, што рашылі адзначыць пушкінскі юбілей у сваіх гарадах, таксама далучыліся да падпіскі (8). У выніку па 50 падпісных лістах было сабрана 1604 р. 44 кап. Усе сабраныя грошы перадалі казначэю таварыства для стварэння да юбілею Мінскай публічнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна. 28 чэрвеня Мінская гарадская дума пастанавіла адобрыць выпрацаваны камісіяй праект статута Мінскай гарадской публічнай бібліятэкі і даручыла гарадской управе прадставіць гэты праект мінскаму губернатару "з тым, каб па зацвярджэнні статута бібліятэка была неадкладна адкрыта". Адзначалася, што Мінску, з яго стотысячным насельніцтвам, востра неабходна мець сваю Публічную бібліятэку, "у якой інтэлігентныя жыхары маглі б прачытаць газету або кнігу, ажыццявіць такім чынам патрэбы для адукаванага чалавека ў такой ступені надзённай, як адзенне і ежа". Але статут гэтай бібліятэкі быў зацверджаны мінскім

губернатарам толькі 20 чэрвеня, а сама бібліятэка адкрыта толькі 25 снежня 1900 г.

26 мая 1899 г. у памяшканні Мінскага гарадскога тэатра (цяпер Беларускі драматычны тэатр імя Янкі Купалы) адбыўся святочны вечар, прысвечаны стагоддзю з дня нараджэння А. С. Пушкіна. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захавалася праграма гэтага вечара. Цікавы змест першага аддзялення праграмы: 1. Марш Мендэльсона (выконвае аркестр Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў). 2. Прамова пра Пушкіна (вымаўляе член таварыства А. Ф. Хаванскі). 3. Чытанне верша М. Ю. Лермантава "Смерть поэта". 4. Чытанне ўрыўкаў з паэмы "Полтава" 5. Хор з оперы А. С. Даргамыжскага "Русалка" (салісты — члены Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў). 6. Паказ жывой карціны "Пушкін у Міхайлаўскім".

Змест другога аддзялення: 1. Паказ жывой карціны "Кавказский пленник". 2. Чытанне верша Пушкіна "Вновь я посетил…". 3. Хор сялян з оперы П. І. Чайкоўскага "Евгений Онегин" (выконваюць члены Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў). 4. Чытанне верша Я. П. Палонскага, прысвечанага памяці А. С. Пушкіна. 5. Гімн А. Ф. Аляксандрава да стагоддзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна (выконвае хор Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў). 6. Чытанне верша Пушкіна "Я памятник себе воздвиг нерукотворный". 7. Хор Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў выконвае "Славу" перад бюстам паэта (10).

З усёй праграмы на наведвальнікаў тэатра, як адзначаў "Минский листок" 26 мая 1899 г., асаблівае ўражанне зрабіў вядомы верш М. Ю. Лермантава "Смерть поэта", прачытаны А. Ф. Аляксандравым. Палітычная вастрыня лермантаўскага верша заўсёды непакоіла правячыя колы. Невыпадкова Міністэрства народнай асветы ў 1899 г. забараніла ўключаць гэты верш у праграму ўшанавання А. С. Пушкіна ва ўсіх навучальных установах Расійскай імперыі (11). І тым не менш, гэты верш быў асабліва папулярны сярод перадавой беларускай інтэлігенцыі. Калі на святочным пасяджэнні прагучалі палымяныя лермантаўскія радкі ("Погиб поэт — невольник чести…"), уся зала страпянулася, прагучалі бурныя апладысменты і воклічы "біс".

Святкаванне стагоддзя з дня нараджэння вялікага паэта ў Мінску і іншых беларускіх гарадах паказала, наколькі Пушкін блізкі і дарагі беларускаму народу. "Минский листок" 26 мая 1899 г. паведамляў, што "такой урачыстасці яшчэ не было ў нас. З самых глухіх гарадоў паступаюць звесткі пра ўшанаванне паэта…". "Тры дні, — гаворыцца ў адной з карэспандэнцый "Витебских губернских ведомостей", — працягваліся ўрачыстасці, прысвечаныя ўшанаванню памяці паэта. Здавалася, што дух гэтага вялікага чалавека і вялікага пакутніка, які стаў ахвярай ворагаў і варожых паклёпаў… нябачна прысутнічаў сярод нас і ачысціў нашы душы і сэрцы ад паўсядзённай брыдоты і мітусні. Чымсьці маладым, гарачым, узнёслым павеяла на нас у гэтыя дні, штосьці радаснае, светлае, шматабяцаючае мроілася нам" (12).

У той жа час гэтае святкаванне паказала, як ставіліся да Пушкіна царскія ўлады. Калі жыхары Мінска за кароткі тэрмін сабралі для Публічнай бібліятэкі

каля дзвюх тысяч кніг, мінскі губернатар князь М. М. Трубяцкой не спяшаўся адкрыць гэту асветную ўстанову, якой надавалася імя А. С. Пушкіна. А бюст вялікага паэта з пастаментам так і не быў устаноўлены ў Мінску.

15 чэрвеня 1899 г. домаўладальнікі і жыхары Ляхаўскай вуліцы (цяпер вуліца Кастрычніцкая) звярнуліся ў Мінскую гарадскую ўправу з просьбай "для ўвекавечання памяці А. С. Пушкіна і ў выпадку святкавання стогадовага юбілею з дня яго нараджэння вуліцу Ляхаўскую, якая вядзе ад Магазіннай вуліцы (цяпер вуліца Кірава) да маста цераз раку Свіслач перайменаваць у Пушкінскую". Гарадская ўправа, а таксама гарадская дума пастанавілі задаволіць просьбу жыхароў і домаўладальнікаў і "прадставіць аб гэтым адпаведнае хадайніцтва мінскаму губернатару". Але апошні "без тлумачэння прычын" 30 верасня наклаў на пастанову гарадскіх улад рэзалюцыю: "…не знаходжу магчымым задаволіць хадайніцтва Мінскай гарадской думы аб перайменаванні вуліцы Ляхаўскай… у Пушкінскую". Гарадской думе нічога не заставалася іншага, як "прыняць гэта да ведама" (13). Просьба жыхароў вуліцы Ляхаўскай так і засталася незадаволенай, а справа "ўвекавечвання памяці А. С. Пушкіна" не даведзенай да канца.

У сваёй упартасці мінскі губернатар не быў адзінокі. Царскія ўлады ў шэрагу гарадоў Расіі давалі згоду называць імем Пушкіна навукова-асветныя ўстановы (школы, бібліятэкі, чытальні), але толькі не вуліцы, бульвары, скверы. Так, вядома, што Маскоўская гарадская дума ў 1899 г. адмовілася перайменаваць Цвярскі бульвар, дзе ў 1880 г. быў пастаўлены помнік паэту, у Пушкінскі (14).

Улады, натуральна, не маглі любіць Пушкіна за яго вальнадумства і не ставілі мэтай прапагандаваць у народзе творы вялікага паэта бунтарскага напрамку. Праз 16 гадоў пасля стогадовага пушкінскага юбілею, у 1915 г., прыстаў першай часці г. Мінска Радкевіч рашуча выступіў супраць дэманстравання ў кінематографе "Люкс" кінакарціны "Капитанская дочка (Емелька Пугачев)", створанай па аднайменнай аповесці А. С. Пушкіна (15). У рапарце мінскаму паліцмайстару ад 15 лютага 1915 г. царскі прыстаў сцвярджаў, што "карціна па сваіму зместу наогул… не пажадана да дэманстравання на экране". Хаця у кінафільме вобразы Пугачова і яго паплечнікаў былі пададзены ў рэзка адмоўным плане, Радкевіч тым не менш бачыць такія "непажаданыя месцы", як паказ вісельні, якая была ўстаноўлена на рачным плыце. Ахоўнік парадку ў дадзеным выпадку прад'яўляе прэтэнзіі ўжо не да сцэнарыстаў, а да самога А. С. Пушкіна, таму што ў прапушчанай главе аповесці, якая была забаронена царскай цэнзурай, гаворыцца пра расправу царскіх карнікаў з бунтаўшчыкамі-пугачоўцамі.

Царскаму прыставу таксама не спадабалася, што ў кінакарціне паказана "пакаранне смерцю каменданта крэпасці і іншых рускіх афіцэраў". Стужка, на думку Радкевіча, "не адпавядае моманту, што перажываецца". Меўся на ўвазе перыяд Першай сусветнай вайны, калі на тэрыторыі Беларусі разгарнуліся ваенныя дзеянні, а таксама развіваўся рэвалюцыйны рабочы рух супраць царскага самадзяржаўя (16). У гэты час царскія ўлады забаранялі распаўсюджванне ў Беларусі тых твораў А. С. Пушкіна, у якіх гаворыцца пра барацьбу народа з прыгнятальнікамі.

Зусім па-іншаму адносілася да А. С. Пушкіна перадавая беларуская інтэліген-

цыя, для якой, па трапнаму выразу Янкі Купалы, А. С. Пушкін быў асабліва блізкі і дарагі “за тое, што ён — жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва”, “пісаў шчыра-бунтарскі, не баючыся за свае жыццё” (17).

*1997*

---

(1) НА РБ. Ф. 1416, воп. 6, спр. 605, т. 1, арк. 248, 270, 475.
(2) Тамсама. Спр. 798, арк. 376.
(3) Тамсама. Ф. 1416, воп. 6, спр. 605, т. 1, арк. 116.
(4) Гл.: Образцы белорусского наречия разных местностей, доставленные М. Авенариусом // Сборник II Отделения русского языка и словесности Академии наук. СПб., 1888. С. XIII.
(5) НА РБ. Ф. 458, воп. 1. спр. 203, арк. 107, 160; спр. 234, арк. 167.
(6) Тамсама. Ф. 1, воп. 1, спр. 3542, арк. 14; ф. 295, воп. 1, спр. 390, арк. 1, 2, 19.
(7) Тамсама. Ф. 1, спр. 3542, арк. 1, 2; ф. 295, воп. 1, спр. 390, арк. 35.
(8) Тамсама. Ф. 295, воп. 1, спр. 390, арк. 150, 151, 170, 200.
(9) Тамсама. Ф. 24, воп. 1, спр. 3600, арк. 14; ф. 299, воп. 1, спр. 12598, арк. 1, 6.
(10) Тамсама. Ф. 295, воп. 1, спр. 3900, арк. 5100.
(11) Гл.: Мейлах Б. Вопросы литературы и эстетики. Л., 1958. С. 346–347.
(12) НАРБ. Ф. 1416, воп. 6, спр. 606, арк. 1467.
(13) Тамсама. Ф. 1, воп. 1, спр. 3503, арк. 1–7.
(14) Гл.: Берков П. Н. Из материалов пушкинского юбилея 1899 г. // Пушкин: Временник пушкинской комиссии. М.; Л., 1937. С. 404.
(15) Гл.: Вишневский В. Художественные фильмы дореволюционной России: (Фильмографическое описание). М., 1945. С. 41.
(16) НА РБ. Ф. 300, воп. 1, спр. 79, арк. 39.
(17) Купала Я . Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 276–277.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### ПРАПАНОВЫ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ “КРУГЛАГА СТАЛА” “КРЫЖ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ У КАНТЭКСЦЕ ДЗЯРЖАЎНАГА І КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСІ”

1. МДФ Крыжа Ефрасінні Полацкай сумесна з Усебеларускім жаночым фондам святой Ефрасінні Полацкай і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны правесці ў 1999 г. навуковую канферэнцыю на тэму “Крыж святой Ефрасінні Полацкай: Гісторыя і пошукі нацыянальнай святыні”.

2. Звярнуцца ў Міністэрства адукацыі з прапановаю штогод праводзіць у сярэдніх школах, гімназіях і ліцэях тэматычны ўрок, прысвечаны выдатнай асветніцы нашага народа Ефрасінні Полацкай. Урок можа быць прымеркаваны да Дня памяці св. Ефрасінні Полацкай (5 чэрвеня) і праводзіцца ў канцы мая або да свята Уздзвіжання Крыжа Гасподняга, звязанага са стварэннем Крыжа святой Ефрасінні (27 верасня).

3. Звярнуцца ў Мінгарвыканкам з прапановаю надаць адной з мінскіх вуліц імя выдатнай беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай.

*Жан-П’ер Жанто (Парыж)*

## ПАПЯРЭДНІЯ ВЫСНОВЫ БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА СОЦЫЯЛІНГВІСТЫЧНАГА АПЫТАННЯ

**Жан-П’ер Жанто** — супрацоўнік Міністэрства адукацыі Францыі, а таксама дактарант Універсітэта Парыж V Сарбона. Ён даўно цікавіцца Беларуссю, яе моўнай сітуацыяй, мае даўнія творчыя сувязі з супрацоўнікамі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. У 1996 г. з-пад пяра французскага даследчыка выйшла ў Парыжы кніга “Закон аб мовах у Беларусі: генезіс, аналіз і развіццё ў сістэме беларускай адукацыі”. У мінулым годзе французскі навуковец правёў соцыялінгвістычнае апытанне ў Мінску. Цяпер ён прадстаўляе яго папярэднія вынікі.

Пры садзейнічанні Міністэрства адукацыі РБ, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, а таксама з дапамогай і падтрымкай іх асобных супрацоўнікаў у красавіку – маі 1998 г. у 27 школах г. Мінска было праведзена пад маім кіраўніцтвам анкетаванне з мэтай высвятлення выбару мовы навучання. 3855 сем’яў выказалі жаданне ўдзельнічаць у ім і адказалі на прапанаваныя пытанні. Зараз я хацеў бы пазнаёміць з папярэднімі вынікамі.

Спачатку разгледзім сем’і, якія выбралі тую ці іншую мову ў залежнасці ад іх нацыянальнасці (гл. табл. 1). Сярод тых, хто выбраў беларускую мову ў якасці мовы навучання для сваіх дзяцей, была даволі значная частка бацькоў беларусаў (1). Дыферэнцыяцыя структуры сем’яў па нацыянальнасці становіцца яшчэ больш відавочнай, калі ўлічыць нацыянальнасць кожнага з бацькоў. У прыведзенай ніжэй табліцы гэтая аперацыя праведзена ў дачыненні да беларускай нацыянальнасці.

*Табліца 1. Нацыянальнасць маці і бацькі*

| Мова / нацыянальнасць | Маці і бацька беларусы | Маці беларуска / бацька інш. нац-ці | Бацька беларус / маці інш. нац-ці | Інш. (адсутн. адказу) |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 68 | 14 | 13 | 5 |
| Руская | 50 | 18 | 17 | 15 |
| Польская | 29 | 46 | 10 | 15 |

Тлумачэнні: сярод вучняў, якія вучацца ў беларускіх класах, 68 % маюць абодвух бацькоў беларусаў, у 14 % — толькі маці беларуска, у 13 % — толькі бацька беларус, у 2 % — бацькі маюць іншую нацыянальнасць. (Прыведзеныя дадзеныя складаюць 100 % з улікам тых, хто не даў адказу.)

Падобныя вынікі атрымліваюцца, калі зыходзіць з месца нараджэння бацькоў.

*Табліца 2. Месца нараджэння маці і бацькі*

| Мова / нацыянальнасць | Маці і бацька (Беларусь) | Маці (Беларусь) / бацька (інш.) | Бацька (Беларусь) / маці (інш.) | Інш. (адсутн. адказу) |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 78 | 11 | 8 | 3 |
| Руская | 62 | 16 | 12 | 10 |
| Польская | 82 | 11 | 4 | 3 |

Тлумачэнні: сярод вучняў, якія вучацца ў беларускіх класах, 78 % маюць маці і бацьку, якія нарадзіліся ў Беларусі, у 11 % — толькі маці нарадзілася ў Беларусі, у 8 % — толькі бацька нарадзіўся ў Беларусі, 3 % маюць бацькоў, якія нарадзіліся па-за межамі Беларусі.

**Мова зносін у сем'ях**

Першая выснова: беларуская мова вельмі рэдка выкарыстоўваецца ў сем'ях у якасці сродку камунікацыі як паміж бацькамі, так і паміж бацькамі і дзецьмі. У той жа час вялікая частка сем'яў ужывае толькі рускую мову як паміж бацькамі, так і паміж бацькамі і дзецьмі.

Тры чвэрці апытаных бацькоў, якія гавораць толькі па-руску, выбралі рускую мову ў якасці мовы навучання для сваіх дзяцей у параўнанні з менш за 45 % бацькоў, якія выбралі беларускую мову. Чвэрць сем'яў, якія выбралі рускую мову, часам гавораць па-беларуску (на "трасянцы" ці па-руску) супраць 51 % бацькоў, дзеці якіх вучацца ў беларускіх класах.

Гэтыя дадзеныя не заўсёды лёгка інтэрпрэтаваць апрыёры: ці то сем'і выбралі тую ці іншую мову навучання для сваіх дзяцей, зыходзячы з уласнай моўнай практыкі, ці то з мэтай яе змянення. Калі аддаць перавагу другой гіпотэзе, то знойдзем значныя адрозненні паміж выбарам мовы зносін паміж бацькамі ці выбарам мовы зносін паміж бацькамі і дзецьмі. Можна меркаваць, што бацькі спрабуюць размаўляць са сваімі дзецьмі на той мове, якая з'яўляецца мовай навучання ў школе, каб дапамагаць ім у вучобе. Але гэта не зусім так. Я больш схіляюся да думкі, што моўная практыка ў сям'і часцей за ўсё з'яўляецца прычынай выбару мовы навучання, чым вынікам (за выключэннем зусім нязначнай часткі сем'яў).

Калі гаварыць пра білінгвізм, то можна сказаць, што, вывучаючы дзве мовы, усе вучні набываюць тэарэтычныя веды і мінімальную гарантыю валодання абедзвюма мовамі. Пераважная частка сем'яў з'яўляюцца пасіўнымі білінгвамі (г. зн. адну мову разумеюць і размаўляюць на ёй, а другой валодаюць толькі на ўзроўні разумення). Сапраўдныя білінгвы, як правіла, аддаюць сваіх дзяцей вучыцца ў беларускія класы. Каб даведацца пра колькасць сем'яў — актыўных білінгваў у Мінску, трэба звярнуцца да лічбаў, прыведзеных у наступных табліцах анкеты.

*Табліца 3. Мова зносін паміж бацькамі (%)*

| Мова навучання / мова зносін | Беларуская | Руская | Змешаная (руска-беларуская) | Польская | Іншая |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 3 | 45 | 51 | 0 | 0 |
| Руская | 0 | 73 | 25 | 0 | 0 |
| Польская | 4 | 39 | 43 | 0 | 14 |

Заўвага: для палякаў "іншая" разумееца як "змешаная" (беларуска-польская ці руска-польская), што тлумачыць значную колькасць сем'яў у апошняй графе (14 %).

*Табліца 4. Мова зносін паміж бацькамі і дзецьмі (%)*

| Мова навучання / мова зносін | Беларуская | Руская | Змешаная (руска-беларуская) | Польская | Іншая |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 3 | 43 | 54 | 0 | 0 |
| Руская | 1 | 74 | 25 | 0 | 0 |
| Польская | 0 | 21 | 36 | 4 | 32 |

Заўвага: для палякаў "іншая" разумееца як "змешаная" (беларуска-польская ці руска-польская).

### Думкі бацькоў наконт навучання і авалодання мовамі

**Меркаванні, з якімі пагадзіліся бацькі абодвух тыпаў класаў** (2)

Больш за чвэрць бацькоў лічаць нармальным абавязковае беларускае навучанне. Такая думка павінна была замацаваць ідэнтыфікацыйную ролю гэтай мовы. Заўважым таксама, што дзве трэці ў цэлым пагаджаюцца з такім сцвярджэннем.

Каля трох чвэрцяў бацькоў лічаць нармальным навучанне дзвюм мовам (рускай і беларускай) з першых класаў. Дзве трэці прытрымліваюцца думкі, што навучанне роднай мове — справа не толькі бацькоў. Яны настойваюць на свабодзе выбару мовы навучання для сваіх дзяцей. Заўважым, што існуе розніца ў меркаваннях бацькоў, з аднаго боку, дзеці якіх вучацца ў беларускіх класах, а з другога боку, — у рускіх класах. На думку першых, адзінай мовай навучання павінна быць беларуская мова.

Тры пытанні з гэтага раздзелу ў анкеце былі прысвечаны замежным мовам. Гэтыя пытанні былі пастаўлены дадаткова да асноўнай тэмы анкеты. Пры гэтым узніклі цяжкасці ў бацькоў, калі трэба было выказаць сваю згоду ці, наадварот, калі прыводзілася меркаванне: "Вывучэнне моў важней, чым вывучэнне матэматыкі" (70 % з апытаных вагаліся, 50 % — выказаліся на карысць вывучэння трох моваў).

Большасць бацькоў (76–78 %) падтрымалі думку наконт паляпшэння навучання замежным мовам. Такая незадаволенасць узнікае ад дэмакратычнасці падыходу да гэтага навучання, лепшай сенсібілізацыі, а таксама большай адкрытасці краіны, магчымасці мець кантакты з замежнікамі на Захадзе, знаёміцца з заходнімі методыкамі выкладання замежных моваў.

**Пытанні, на якія існуюць розныя адказы**

Больш за 90 % бацькоў, дзеці якіх вучацца ў рускіх класах, і 83 % тых, дзеці якіх вучацца ў беларускіх класах, выказаліся за абавязковае вывучэнне рускай мовы. Відавочна, што гэтая розніца тлумачыцца выяўленнем асабістых нацыянальных пачуццяў. Бацькі адчуваюць сябе быццам прывязанымі да выбару мовы, што пацвярджае іх меркаванне аддаць перавагу адзінай мове навучання для ўсёй рэспублікі. Жаданне бацькоў з беларускіх класаў можна суаднесці з воляй бачыць беларускую мову адзінай мовай навучання, што было прадугледжана Законам аб мовах ад 28 студзеня 1990 г.

Калі больш за 4 сям'і з 5-ці выказалі пажаданне ўвесці трэцюю мову з 1-га класа, відаць, педагагічна гэта падышло б не для ўсіх. Дадзенае меркаванне дэманструе тую важнасць, якую надаюць вывучэнню моваў, асабліва замежных, бацькі вучняў мінскіх школ. Меншае значэнне гэтая праблема мае для бацькоў вучняў беларускіх класаў ў параўнанні з бацькамі навучэнцаў рускіх класаў.

Большасць бацькоў лічыць, што школа рыхтуе поўнасцю білінгваў (сюды пераважна ўваходзяць бацькі з беларускіх класаў (66 %). Супраць гэтага выступаюць бацькі вучняў польскіх класаў (78 %).

**Магчымасць выбару мовы навучання ў пачатковай школе (1–4 класы)**

Значная колькасць сем'яў адказалі, што мелі магчымасць выбіраць мову навучання для сваіх дзяцей. Але 45 % бацькоў з беларускіх класаў, 22 % — з рускіх класаў адказалі, што не мелі такой магчымасці. Заўважым, што, улічваючы значна большую колькасць рускіх класаў, то і гэты працэнт даволі вялікі (22 %).

Урэшце, вялікая колькасць сцвярджэнняў наконт немагчымасці выбару мовы навучання здзіўляе і выклікае трывогу. Але гэта не азначае, што бацькі не могуць увогуле вучыць сваіх дзяцей у тых класах, у якіх хацелі б.

*Табліца 5. Сем'і, дзеці якіх вучацца ў 1-4 класах (%)*

| Мова навучання / бацькі | Мелі магчымасць выбару | Не мелі магчымасці выбару | Не адказалі |
|---|---|---|---|
| Беларуская | 50 | 45 | 5 |
| Руская | 75 | 22 | 3 |
| Польская | 86 | 4 | 11 |

У адным з чатырох выпадкаў толькі адзін з бацькоў выбіраў мову навучання для сваіх дзяцей ў пачатковай школе, але ў трох выпадках з пяці — абодва бацькі. Бацькі дзяцей з польскіх класаў адказвалі на гэтае пытанне па-рознаму. Некаторыя з іх патлумачылі свой выбар (3).

Аналіз выбару мовы навучання дазваляе высветліць розныя яго крытэрыі. Бацькі навучэнцаў з беларускіх класаў выбралі мову:

• па нацыянальнай прыкмеце (мова іх нацыянальнасці) — 76 %;

• па прычыне таго, што гэтая мова паспрыяе далейшаму навучанню ў ВНУ (23 %);

• па прычыне ўжывання гэтай мовы дома (17 %);

• па прычыне добрай рэпутацыі школ і настаўнікаў (14 %).

Што ж датычыцца бацькоў вучняў з рускіх класаў, то свой выбар яны матывуюць тым, што:

• гэтая мова дае лепшыя мгчымасці для далейшага навучання (73 %);

• ужываюць гэтую мову дома (52 %);

• рэпутацыя настаўнікаў вельмі добрая (26 %).

Цікавым з'яўляецца тое, што бацькі вучняў з польскіх класаў называюць тую ж галоўную прычыну, што і бацькі з рускіх класаў: лепшае спрыянне далейшаму навучанню. А можа, яны думаюць вучыцца ў Польшчы? Схематычна выбар беларускай мовы можна патлумачыць прычынай ідэнтыфікацыйнай, у той час як выбар рускай мовы мае больш утылітарны падыход.

Каб патлумачыць адсутнасць магчымасці выбару мовы навучання, можна прывесці дзве асноўныя прычыны: 1) адсутнасць класаў з іншай мовай у школе (для 1/3 бацькоў); 2) значная аддаленасць класаў з іншай мовай (для 1/4 бацькоў). Гэта самыя важныя практычныя прычыны, якія скарацілі магчымасці выбару.

**Магчымасць выбару мовы навучання ў сярэдняй школе (5–11 класы)**

Як і ў пачатковай школе, большасць сем'яў адказалі, што маглі выбраць мову навучання для сваіх дзяцей у сярэдняй школе, у той час як больш за 1/3 бацькоў падкрэслілі, што не мелі такога выбару. Даволі цікава будзе звярнуцца да табліцы, дзе мы ўбачым працэнтныя паказальнікі беларускіх і рускіх класаў. Адсутнасць магчымасці выбару прывяла да непажаданай пераарыентацыі. Некаторыя сем'і не маглі выбіраць, але іх дзеці змаглі трапіць у класы, у якія пажадалі.

*Табліца 6. Сем'і, дзеці якіх вучацца ў 5–11 класах (%)*

| Мова навучання / бацькі | Мелі магчымасць выбару | Не мелі магчымасці выбару | Не адказалі |
|---|---|---|---|
| Беларуская | 55 | 37 | 8 |
| Руская | 57 | 39 | 5 |

Заўвага: усе вучні-палякі, якія вучацца з 1-га па 4-ты клас, яшчэ не маюць польскай мовы як мовы навучання.

Выбар мовы навучання ў пачатковай школе часцей за ўсё ажыццяўляецца двума бацькамі, а ў сярэдняй школе мае значэнне і жаданне, воля саміх дзяцей. У прынцыпе гэта лагічна.

Каб патлумачыць прычыны выбару, можна знайсці для кожнай з дзвюх груп тыя ж прычыны, што і ў пачатковай школе. Ідэнтыфікацыйная прычына (67 % супраць 76 %) у беларускіх класах, так як і утылітарная прычына для бацькоў вучняў з рускіх класаў, вынікае з новага фактара: бесперапыннасць лінгвістычнага навучання. За гэта выказаліся ад 50 % да 60 % апытаных. Ва ўсіх выпадках гэта можа быць другім тлумачэннем выбару мовы навучання ў сярэдняй школе.

А каб патлумачыць немагчымасць гэтага выбару, можна звярнуцца да тых жа прычын, што і ў пачатковай школе.

У анкеце былі пастаўлены і іншыя пытанні, але іх вынікі тут яшчэ не прадстаўлены. Напрыклад, мяне цікавіла, якія замежныя мовы выбіраюць бацькі для

сваіх дзяцей. Аказалася, што на першым месцы стаіць англійская мова, затым — нямецкая і французская. Спадзяюся крыху пазней паведаміць чытачам “Кантактаў і дыялогаў” іншыя вынікі гэтага анкетавання.

*Пераклад з французскай мовы* ***Наталлі Марцынкевіч***

---

(1) Трэба нагадаць, што чытаць гэтыя табліцы трэба толькі гарызантальна. Працэнты ў іх прыводзяцца, зыходзячы з неапрацаваных дадзеных. Затым гэтыя дадзеныя павінны быць адкарэктаваны ў залежнасці ад рэальных характарыстык агульнага насельніцтва. Толькі пасля гэтага стане магчымым дакладней вызначыць адносіны да выбару мовы навучання прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей.

(2) Заўвага: акругленні вынікаў па лініях могуць перавысіць 100 %.

(3) Бацькі маглі даваць два адказы на пытанні, але гэтая магчымасць не ўсімі сем’ямі была выкарыстана. Сумарныя ж вынікі, якія датычацца мовы навучання, складаюць ад 100 да 200 %.



*Прэзентацыя кнігі Яна Чыквіна “Далёкія і блізкія” (пра беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў) у Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Другі справа — аўтар*




*11 кастрычніка 1998 г. у невялікім эстонскім гарадку Ківылы быў адкрыты помнік беларускаму пісьменніку Янку Скрыгану, які туды трапіў пасля сталінскага лагеру. Фундавала помнік, зроблены Валерыем Янушкевічам, мясцовая фірма “ПяйдэКіві”. Цырымонію пачалі Генеральны консул Беларусі ў Таліне Янка Бондар і прадстаўнік Міністэрства культуры Беларусі Анатоль Бабіцкі. Ініцыятарамі ж ушанавання з’явілася мясцовае Згуртаванне беларусаў БЭЗ*

## СТЭФАНУ ПАПТОНЕВУ — 70 ГОД

Шаноўны Стэфан Паптонеў!

Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і Таварыства “Беларусь – Балгарыя” віншуюць Вас з 70-годдзем з дня нараджэння.

Балгарыі пашанцавала мець такога пісьменніка, публіцыста, чалавека вялікай грамадскай адказнасці, які самааддана служыць свайму народу, Беларусі — мець такога надзейнага, шчырага, адданага сябра, якім з’яўляецеся Вы, Стэфан.

Мы ўдзячыны Вам за тое, што наша Бацькаўшчына займае вялікае месца ў Вашай творчасці, у Вашым жыцці. Кнігі, напісаныя з вялікай любоўю да Беларусі, — “Беларусь — белая балада”, “Беларуская восень”, “Бярозы, застаюся вашым палонным”, шматлікія публікацыі ў перыядычным друку, выступленні ў розных аўдыторыях даносяць Вашым сэрцам у Балгарыю нашу культуру, гісторыю, нацыянальныя традыцыі. Дзякуючы Вам на балгарскай мове гучаць творы многіх вядомых беларускіх літаратараў. І гэта таксама пацвярджэнне Вашага клопату, нераўнадушнасці, вернасці дружбе. Мы ўдзячны лёсу, што ў гэты складаны для культурных стасункаў нашых краін час менавіта Вы, Стэфан, узначальваеце Таварыства “Балгарыя – Беларусь” і разам з іншымі сябрамі ажыццяўляеце шмат карысных праграм.

Беларусь высока цэніць Вашы намаганні па супрацоўніцтву нашых народаў, нашых культур. Мы віншуем Вас з высокай урадавай узнагародай — медалём Францыска Скарыны, якім Вы ўзнагароджаны ўрадам Рэспублікі Беларусь.

Жадаем Вам, дарагі Стэфан, моцнага здароўя, даўгалецця, плёну на Вашым творчым шляху, шчасця і дабрабыту.

*Старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы* ***Арсен Ваніцкі,***
*Старшыня Таварыства “Беларусь – Балгарыя”* ***Генадзь Цыхун***

У канцы 1998 г. у Федэрацыі дружбы з народамі СНД у Балгарыі (Сафія) адбылося ўручэнне медаля Францыска Скарыны вядомаму балгарскаму пісьменніку Стэфану Паптоневу, узнагароджанаму за развіццё балгарска-беларускіх літаратурных сувязей. Узнагароду ўручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Балгарыі Аляксандр Герасіменка. Са словамі ўдзячнасці выступіў юбіляр.

## “ЗАЙГРАЛІ СПАДЧЫННЫЯ КУРАНТЫ”

Так называецца зборнік Віктара Скорабагатава, прэзентацыя якога адбылася 15 студзеня ў Беларускім таварыстве дружбы. У выданне, якое з’яўляецца пятай кнігай у вядомай серыі “Вяртанне”, увайшлі артыкулы маэстра, прысве-

чаныя нашай музычнай спадчыне. Аўтар вяртае з небыцця імёны і творы кампазітараў, якія жылі і тварылі ў Беларусі, але спадчына якіх належыць адначасова некалькім народам (прыгадаем тут хаця б Станіслава Манюшку, Напалеона Орду, Восіпа Казлоўскага ці Яна Голанда).

Выдадзены зборнік стараннем Беларускага фонду культуры. Таму першым на прэзентацыі ўзяў слова яго старшыня Уладзімір Гілеп. Пра грамадзянскі, патрыятычны подзвіг Віктара Скорабагатава як артыста, педагога і даследчыка гаварыла мастацтвазнаўца Вольга Дадзіёмава. Адам Мальдзіс, выступаючы на гэты раз у ролі старшыні камісіі “Вяртанне” (яна правяла сто пасяджэнняў) расказаў, з чаго пачыналіся пошукі музычных твораў (да прыкладу, так званага “Полацкага сшытка”) у бібліятэках і архівах Польшчы, Расіі, Літвы. Рэдактар кнігі Вячаслаў Вайткевіч, спаслаўшыся на словы акадэміка Раўшэнбаха, падкрэсліў “класічны склад душы і класічны стыль мыслення” аўтара зборніка, навукоўца і артыста, і прыйшоў да такога абагульнення:

— Калі мы маем такія творы, то мы — самабытны беларускі народ, мы — дзеці Еўропы.

Затым быў канцэрт з твораў, якія даследуюцца ў зборніку. Сам аўтар праспяваў “Дзеда і бабу” С. Манюшкі, чый юбілей будзе неўзабаве адзначацца (у Беларусі створана спецыяльная камісія). “Бацька польскай оперы” і адначасова сын “роднай мінскай зямелькі” глядзеў на прысутных з карціны Уладзіміра Стальмашонка, якая вісела над сцэнай і на якой побач з Манюшкам былі аблічча іншых кампазітараў, вернутых з забыцця.

***Тамара Антановіч,***
*старшыня праўлення Таварыства “Беларусь – Бельгія”*

## УВАСАБЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ДУШЫ

На чарговым пасяджэнні праўлення Таварыства “Беларусь – Бельгія” прысутныя адзначылі жыццёвы і творчы юбілей вядомай беларускай драматычнай актрысы і спявачкі Таццяны Мархель. Як пра ўвасабленне беларускай народнай душы пра яе гаварылі старшыня Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” Ганна Сурмач, дырэктар Цэнтра імя Ф. Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, пісьменнікі Леанід Дранько-Майсюк, Валянціна Аксак і Уладзімір Арлоў, прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс, госця з Украіны паэтэса Іна Снарская, скульптар Алесь Шатэрнік, старшыня таварыства Тамара Антановіч і іншыя. Хораша спявалі і танцавалі дзеці, прамаўлялі вучні Бараўлянскай школы. Дэманстраваўся фільм, прысвечаны Таццяне Мархель. Выступіла і сама юбілярка, якая нядаўна вярнулася з плённай паездкі ў Бельгію.

На пасяджэнні былі таксама разгледжаны вынікі работы таварыства за мінулы год і планы на будучае. У гэтых планах — абмен выстаўкамі, спецыялістамі, наладжванне гуманітарнай дапамогі. І, вядома ж, канцэрты, у якіх зноў прыме ўдзел Таццяна Мархель.

***Наш кар.***

*Адам Мальдзіс (Мінск)*

## "...УВАЖАЮ СВАІМ НАРОДАМ"



Сустрэчы з польскай пісьменніцай і медыкам Надзеяй Бітэль-Дабжынскай я чакаў даўно — па меншай меры два дзесяцігоддзі. Каб высветліць галоўную таямніцу яе брата, таленавітага мастака Льва Дабжынскага, які жыў і загінуў у Лошы, вёсцы на Астравеччыне, якая знаходзіцца ў трох кіламетрах ад маіх родных Расолаў. Каб асабіста пазнаёміцца з аўтарам чароўнай кніжкі пра беларускую знахарку Агрыпіху.

Але найперш пра Льва Дабжынскага, вестка аб смерці якога балюча ўразіла мяне ў дзяцінстве. Нарадзіўся ён у 1907 г. у Пецярбургу. Яго дзедам быў сенатар і царскі саветнік Антон Дабжынскі, пахаваны, як і ўнук, на зямлі Астравецкай, у Лошы. Яго маці была артысткай, спявачкай, блізкай сваячкай вялікага рускага пісьменніка Льва Талстога (адсюль і імя — Леў), а яго бацька, па прафесіі юрыст, таксама быў здольным мастаком. Леў Дабжынскі, мяркуючы па каталогу першай і апошняй яго персанальнай выстаўкі, праведзенай у Вільні, часта маляваў лашанскія краявіды, лашанскіх сялян. Ён бліскуча закончыў Віленскі універсітэт — клас знакамітага польскага і беларускага мастака Фердынанда Рушчыца, які раіў юнаку працягваць вучобу ў Францыі. Была нават атрымана стыпендыя — адзіная на ўсю даваенную Польшчу. Але патрэбны былі яшчэ грошы на дарогу. Маці адмовіла. Тады, у 1938 г., юнак, паводле афіцыйнай версіі, закончыў жыццё самагубствам. Пахавалі яго за агароджай драўлянага касцёла ў Лошы.

Шукаючы творы Льва Дабжынскага, я даведаўся, што ў Польшчы, у Гданьску, жыве яго сястра — доктар медыцыны Надзея Бітэль-Дабжынская. У сваіх лістах яна расказала пра лёс творчай спадчыны брата (372 карціны былі пасля вайны, пры выездзе, пакінуты ў Вільні). Да таго ж аказалася, што Надзея Бітэль-Дабжынская — яшчэ і пісьменніца, паэтэса. У яе архіве цудам захаваўся беларускі верш "Пакацілася восень аржышчамі", напісаны ў Лошы ў 1939 г.

Затым з Гданьска на маё імя прыйшлі дзве бандэролі. У большай былі ксеракопіі гравюр і акварэляў Льва Дабжынскага. І сярод іх — выявы лашанскага двара, пабудаванага ў 1776 г. з лістоўнічнага дрэва, лашанскага млына, вясковых хат (“Хата Амілі”), навакольных краявідаў, дзяцей, свойскай жывёлы. Асабліва любіў мастак старыя разгалістыя дрэвы.

У другой жа бандэролі была кніжка Надзеі Бітэль-Дабжынскай “Як ведзьма Агрыпіха знахарству мяне вучыла”, выдадзеная ў Гданьску ў 1991 г. Кніжка гэтая мае яўна аўтабіяграфічны характар, напісана на падставе ўспамінаў дзіцячых год. Яе галоўная гераіня, знахарка Агрыпіха, як адзначана ў пасляслоўі, напісаным колішнім жыхаром Маладзечаншчыны, а цяпер папулярным гданьскім празаікам Збігневам Жакевічам, гаворыць “мовай, вельмі набліжанай да беларускай”. У кніжцы шырока выкарыстаны беларускія народныя казкі і легенды — пра д’ябла, які аб’еўся дзікіх грушак, пра хлопчыка, што замяніўся ў кветку-васілёк, пра воўчыя ягады, якія — калі іх палізаць — ператвараюць чалавека ў “вільчанё”. У цэнтры кнігі — прывабны і адначасова трагічны вобраз народнай знахаркі Агрыпіхі, якую вяскоўцы лічаць ведзьмай. А яна робіць суседзям дабро, лечачы людзей зёлкамі, адкрываючы ім вочы на хараство навакольнага свету. Свае веды, свой народны вопыт (як збіраць траўкі, як харчавацца, як адрозніваць дабро ад зла) Агрыпіха перадае маладой уражлівай дзяўчынцы — у ёй лёгка ўгадваецца аўтарка кнігі, пазнейшая лекарка, якая не раз выкарыстоўвала ў сваёй медыцынскай практыцы лекі і замовы, засвоеныя ад беларускай “ведзьмы”.

У пасляслоўі да кнігі Збігнеў Жакевіч параўноўвае яе са “Шляхціцам Завальняй” Яна Баршчэўскага, таксама заснаваным на народных паданнях, падкрэслівае, што Надзея Бітэль-Дабжынская “ўвайшла ў глыбокія, патаемныя слаі ведаў пра душу беларускага народа”, дакладна перадала гаворку “свету Ашмянскага ўзгор’я”.

Тыя ж самыя вартасці кніжкі адзначаны і ў рэцэнзіі Тарэсы Звяжхоўскай “Вучаніца ведзьмы Агрыпіхі”, апублікаванай у адной з гданьскіх газет. З рэцэнзіі я даведаўся, што Надзея Бітэль-Дабжынская з’яўляецца таксама аўтарам 69 навуковых прац, што ў час вайны яна дапамагала партызанам у змаганні з фашыстамі.

Па ініцыятыве Міжнароднага камітэта беларусістаў, стараннем Беларускага фонду культуры і аддзела культуры Астравецкага райвыканкама ў 1991 г. на магіле Льва Дабжынскага быў устаноўлены помнік. Тады ж у Лашанскім доме культуры адкрылася сціплая выстаўка ксеракопій твораў мастака (пераважна графічных), прысланых яго сястрой. Але па стану здароўя Надзея Бітэль-Дабжынская на тую ўрачыстасць прыбыць не змагла. Не прыехала яна і на шасцідзесяцігоддзе з дня яго смерці, калі ў лашанскім драўляным касцёле адбылася імша яго памяці, а ў доме культуры прайшоў своеасаблівы вечар успамінаў (у ім прынялі ўдзел дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Томаш Нягодзіш, кіраўнікі раённых устаноў культуры, аўтар гэтых радкоў). Мясцовыя сялянкі, разгаварыўшыся, сардэчна ўспаміналі брата і сястру Дабжынскіх, якія сябравалі

з вясковымі дзецьмі, запрашалі іх “у двор”, вучылі іх грамаце, гаварылі па-беларуску, ладзілі аматарскія спектаклі. Аднак да афіцыйнай версіі пра самагубства аднесліся вельмі скептычна. Ну не мог юнак, у якога толькі што паспяхова прайшла выстаўка, які перамог у конкурсе на прэстыжную стыпендыю, у якога, здаецца, добра намячалася асабістае шчасце, вось так узяць і выстраліць сабе ў скронь з пісталета. У смерці мастака жанчыны вінавацілі, хутчэй, пана з суседніх Рукшаняў, які і сам неўзабаве, з прыходам савецкай улады, павесіўся ў лашанскім парку. Але найбольш прысутных хваляваў лёс мастацкай спадчыны Льва Дабжынскага. Яны выказвалі пажаданне, каб я пры нагодзе з’ездзіў у Гданьск і нарэшце сустрэўся з ягонай сястрой.

І вось у кастрычніку мінулага года такая нагода здарылася. Пасля Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Адам Міцкевіч. Традыцыі і наватарства” (Варшава – Познань) мяне запрасілі ў Гданьск, для выступленняў у “Беларускай хатцы” і ва універсітэце пра дачыненні геніяльнага паэта да Беларусі і беларускасці. На вечар у “Беларускай хатцы”, які вяла грамадская дзеячка і даследчыца-гісторык Алена Глагоўская, прыехала, хоць і з цяжкасцю, Надзея Бітэль-Дабжынская. Зацікаўлена ўглядалася ў суродзічаў-суайчыннікаў, што выехалі сюды, як і яна, пасля апошняй вайны, сваімі пранізлівымі і ўсёразумеючымі вачыма, у якіх было штосьці ад гераіні яе аповесці. Усё разумела па-беларуску і сама імкнулася гаварыць на мове свайго дзявоцтва, што прайшло ў Лошы і ў Пярловай Гары, у ваколіцах Крэва. Запрасіла нас — доктара Глагоўскую, актыўных сяброў “хаткі” Ганну і Часлава Мекіных і мяне — на абед.

Назаўтра Надзея Бітэль-Дабжынская сустрэла нас ля парога дома (відаць, свайго) словамі:

— Ну, а цяпер пагаворым нарэшце па-беларуску!

Да гэтай фразы мы вярнуліся за сталом:

— Беларуская — гэта ваша родная мова?

— Не зусім. Нарадзілася я на Украіне. Выхоўвалася ж на рускай культуры. Маёй бабуляй была Надзея Львоўна Талстая, зразумела, праваслаўная. Мой дзед, Антон Францавіч Дабжынскі, хоць і каталік, з’яўляўся тайным саветнікам, сенатарам царскага сената. Таму дома з аднолькавай талерантнасцю ставіліся да абодвух веравызнанняў. Сама я выхавалася на рускай класіцы. Але калі пасля рэвалюцыі мы пераехалі на Віленшчыну, я, як і бабуля, палюбіла той народ, сярод якога жыла, тую зямлю, дзе ў лашанскай капліцы знайшоў вячысты супакой мой дзядуля.

— Верш “Пакацілася восень аржышчамі” ў вас выключэнне ці заканамернасць?

— Беларускіх вершаў было болей. Асабліва ў апошнюю акупацыю. Па-беларуску ігралі ў Лошы кароценькія п’есы.

— Чые?

— Не помню ўжо. Помню толькі, як паліцыя пыталася: на чым гэта іграеце? Я ж адказала: не на чым, а што. Хаця было і на чым. Добра было б даведацца, куды знікла нашае абраслае легендамі фартэп’яна.

— У 1939 годзе?

— Так. Але тады пагрому ў Лошы не было. Маці спакойна сказала сялянам: вы самі павінны падзяліць нашы каровы. І ўсё астатняе, бо вы — свой народ. Тады ж маглі разысціся па руках некалькі карцін брата.

— Кажуць, некаторыя з іх ёсць на Астравеччыне ў прыватных руках і цяпер. Толькі не ведаюць, хто іх аўтар.

— Можа. Але асноўны збор карцін застаўся, калі мы паспешліва выязджалі ў Польшчу, у пана Бішэўскага ў Вільні, на вуліцы Кальварыйскай, 9. Аднак там сёння жывуць зусім іншыя людзі. Пасмяротная маска брата і яго палотны былі таксама ў Навіцкага ў Лодзі. Але таксама зніклі. У мяне засталося зусім няшмат — аўтапартрэт, некалькі пейзажаў.

Далікатна пераводжу гаворку на трагічную смерць Льва Дабжынскага: ці маюць рацыю жанчыны, якія вінавацяць рукшанскага пана Расальскага.

— Расальскі і сам паў ахвярай нячыстай сілы. — Раптам у вачах вучонага-эндакрынолага і педыятра мне зноў пабачылася нешта ад Агрыпіхі. — У Лошы, асабліва там, дзе раслі паўкругам елкі, была шатанская моц. Яна і да мяне прыходзіла ў пакой з аркадаю праз зачыненае акно. Ахвярай гэтай сілы стаў і брат, таямнічая і сціплая асоба. Таму трэба было б асвенціць тое месца, крыжык паставіць…

Перад развітаннем заходзім у кабінет, дзе вісяць працы Льва Дабжынскага. Часлаў Мекін фатаграфуе яго аўтапартрэт, які, здаецца, нідзе не рэпрадукаваўся (здымак змяшчаецца ў пачатку гэтага артыкула).

— Думалася, — гаворыць на развітанне гаспадыня, — што славу мне прынясуць навуковыя публікацыі, незакончаная габілітацыйная праца. Лёс распарадзіўся інакш: больш папулярная мая “Агрыпіха”. Цяпер заканчваю новую кніжку пра Беларусь. Яе народ таксама ўважаю сваім народам.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

• ***31 кастрычніка*** ў Лондане адбылося гадавое пасяджэнне Англа-Беларускага таварыства, якое з’яўляецца калектыўным сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Справаздачу зрабіў яго старшыня Гай Пікарда. Таварыства папоўнілася шасцю сябрамі. Г. Пікарда быў перавыбраны яго старшынёй, а Д. Дзейка — сакратаром.

• ***11 лістапада*** санкт-пецярбургскія беларусісты правялі Шостую канферэнцыю “Санкт-Пецярбург і беларуская культура”. У ёй прынялі ўдзел вучоныя з абедзвюх расійскіх сталіц, а таксама з Варшавы і Беластока. Сенсацыяй стала паведамленне Алены Камісаравай аб знаходцы трох невядомых раней экземпляраў беларускіх кніг XIX ст. — “Крыўды і праўды” Ф. Пчыцкага, першай кнігі “Пана Тадэвуша” А. Міцкевіча, перакладзенай А. Ельскім, і “Смыка беларускага” Ф. Багушэвіча.

• ***13 лістапада*** доктар Ян Чыквін з Беластоцкага універсітэта атрымаў з рук Прэзідэнта РП Аляксандра Кваснеўскага дыплом прафесара. Я. Чыквін — кіраўнік аддзела літаратуразнаўства Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Беластоцкага універсітэта, беларускі паэт, перакладчык, рэдактар часопіса “Тэрмапілы”, старшыня Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”.

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ДАВЕДНІКА

### МІРАНОВІЧ АНТОН



***Мірановіч Антон Васільевіч*** *(30.10.1959, Беласток, Польшча), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч, доктар габілітаваны (1997), прафесар (1998).*

У 1982 г. А. Мірановіч закончыў Беластоцкі універсітэт. Пасля працаваў настаўнікам у школе, супрацоўнічаў з газетамі “Ніва” і “Przegląd Prawosławny”. З 1986 г. — выкладчык Інстытута гісторыі Варшаўскага універсітэта, пасля — Інстытута гісторыі універсітэта ў Беластоку. Быў выкладчыкам навучальных устаноў у Рыме, Лондане, Таронта і Мінску. У 1990 г. атрымаў званне доктара гісторыі ў Торуньскім універсітэце імя Мікалая Каперніка. У 1997 г. Каталіцкі універсітэт у Любліне прысвоіў яму званне доктара габілітаванага. У 1998 г. Сенат Беластоцкага універсітэта запрасіў А. Мірановіча на пасаду прафесара.

А. Мірановіч з’яўляецца аўтарам звыш 10 кніг і больш 150 навуковых артыкулаў. Яго працы прысвечаны гісторыі праваслаўнай царквы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, беларуска-польскім зносінам канца XVIII ст. і беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У спісе яго кніг значацца: “Супрасль як культурна-рэлігійны асяродак у XVI стагоддзі” (Ляймен, 1984), “Падляшскія праваслаўныя асяродкі і арганізацыі ў XVI–XVII стст.” (Беласток, 1991), “Невядомы гербоўнік Міхала Шацілы” (Лондан, 1992), “Брацтва Аб’яўлення Панскага ў Бельску” (Бельск, 1994), “Праваслаўе і унія ў часы панавання Яна Казіміра” (Беласток, 1996), “Тэадозы Васілевіч, слуцкі архімандрыт, беларускі біскуп” (Беласток, 1997), “Кніга цудаў, якія адбыліся перад іконай Маці Божай у Старым Карніне” (Беласток, 1997) і інш.

А. Мірановіч — сябра прэзідыума Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Польска-расійскай гістарычнай камісіі Акадэміі навук Польшчы, Міжнароднай камісіі гісторыі Царквы Польскай акадэміі навук, Усходнеславянскай камісіі Польскай ака-

дэміі ўмельстваў у Кракаве і іншых міжнародных арганізацый. Ён таксама з'яўляецца старшынёй Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы, намеснікам старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Польшчы.

***Ала Такіндан***

## ПІЛІПЕНКА МІХАІЛ

***Піліпенка Міхаіл Карнеевіч*** *(3.09.1924, в. Дуброўка Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл.), ваенны, генерал-лейтэнант (1982), Герой Савецкага Саюза (1943). Ганаровы грамадзянін Кіева (1985). Заслужаны дзеяч вышэйшай школы.*



Нарадзіўся М. Піліпенка ў сялянскай сям'і. У ліпені 1941 г. разам з бацькам пайшоў добраахвотнікам на фронт, неўзабаве пры знішчэнні фашысцкага авіядэсанта быў ранены. Удзельнічаў у баях на Заходнім, Паўночна-Заходнім, Ленінградскім, Варонежскім, 1-м Украінскім франтах. Удзельнічаў у Курскай і Корсунь-Шаўчэнкаўскай бітвах. Сувязіст-разведчык малодшы лейтэнант М. Піліпенка асабіста вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра паўночней і паўднёвей Кіева. 1 кастрычніка 1943 г. у раёне в. Бортнічы і 5 кастрычніка 1943 г. ля в. Моцеж пад абстрэлам праціўніка перапраўляўся праз раку, каб наладзіць сувязь і карэкціраваць агонь артылерыі. На захопленым плацдарме з яго удзелам былі адбіты шматлікія контратакі ворага. У складзе перадавых падраздзяленняў удзельнічаў у вызваленні Кіева. У 1953 г. закончыў Ваенную акадэмію сувязі імя М. Будзённага. З 1963 г. М. Піліпенка — начальнік Кіеўскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча сувязі імя М. Калініна. Прымаў актыўны ўдзел у ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай катастрофы. Ганаровы радыст СССР. З 1993 г. — старшыня Камітэта Герояў Савецкага Саюза і Кавалераў Славы 3-х ступеняў Украіны.

У 1996 г. М. Піліпенка быў выбраны старшынёй грамадскай арганізацыі — Культурна-асветнага таварыства "Беларусь", якая гуртуе суайчыннікаў у Кіеве і на Украіне.

У мінулым нумары "Кантактаў і дыялогаў" быў змешчаны артыкул Міхаіла Піліпенкі пра знакамітую сям'ю палешукоў Дрынеўскіх.

***Браніслава Котава***

## ДОКТАР ГРЫЦКЕВІЧ ЛЕЧЫЦЬ ГІСТОРЫЯЙ

Мы народжаны быць адзінокімі. Мноства людзей навокал толькі ўзмацняюць прагу знайсці Чалавека. Блізкага па духу. Чалавека, які дапамагае нам зразумець сябе і спасцігнуць сэнс жыцця.

З Анатолем Пятровічам Грыцкевічам мы асабіста знаёмыя некалькі гадоў, а здаецца — цэлы век. Я бясконца паважаю і шчыра люблю гэтага чалавека, з кім маю шмат агульных спраў і, рызыкну сцвярджаць, падобных рысаў характару і перакананняў. Мы абое са Случчыны, абое цэнім сваё паходжанне, абое канструктыўныя нацыяналісты, каталікі, маем нават аднаго на дваіх аспіранта, аптымісты, любім гумар, усё новае і нечаканае, з цяжкасцю пераносім тупы кансерватызм, застой і коснасць. Спадзяюся, што нашыя сумесныя пачынанні будуць плённымі, а іх канкрэтныя вынікі засведчаць пра нашу настойлівасць і цвёрдасць у дасягненні мэтаў.



Уся Еўропа ведае прафесара Анатоля Грыцкевіча як выдатнейшага беларускага гісторыка, чыя навуковая непрадузятасць гартавала і вызначала пэўнасць яго грамадзянскай пазіцыі. Імкненне да аб’ектыўнасці ў навуцы, пакланенне Яе Вялікасці Праўдзе выявілі акурат заангажаванасць вучонага. Заангажаванасць у патрыятызме, у беларускасці.

Думаю, што “Вера і Веды” — крэда Анатоля Грыцкевіча. Ён верыць у Бога, верыць Богу, што не павінен пакінуць Беларусь. Анатоль Пятровіч (дарэчы , як і яго брат у Санкт-Пецярбургу, Валянцін Грыцкевіч, медык па адукацыі!) ведае, як лячыць нас. Вераю у сябе, свае сілы, ведамі аб нашых магчымасцях. Ён лечыць нас гісторыяй…

Здараецца, што мы цэнім, шануем чалавека завочна, мяркуючы аб яго пазіцыі, інтэлектуальным агульнакультурным узроўні і шмат чым іншым па артыкулах, манаграфіях, выступленнях. Бліжэйшае ж знаёмства часам расчароўвае. Асабліва часта так здараецца ў дачыненні да вядомых, знакамітых людзей, калі ўзвышанае ўяўленне аб іх разбіваецца аб звычайныя чалавечыя слабасці, побытавыя дэталі. У выпадку з прафесарам Грыцкевічам у мяне так не сталася. Хутчэй наадварот.

Анатоль Грыцкевіч не толькі пісаў і піша пра беларускую шляхту, некалі шматлікую. У асобе прафесара мы маем жывога носьбіта высакароднейшых шляхецкіх традыцый. Шляхетнасць, вымагаючы ўласнай годнасці і гонару за

продкаў, не дазваляе дробна схітрыць, схібіць, прынізіць, наўмысна падмануць. Тонкасць густу, што выяўляецца ў далікатнасці натуры, уменне заўважыць істотнае і не звяртаць увагі на дробязнае, мітуслівае, арыстакратычныя манеры і нейкая аддаленасць ад суразмоўцы, стрыманасць, што прадвызначаецца правіламі добрага тону, — усё гэта ўласціва прафесару А. Грыцкевічу. Гэты чалавек дзівосным чынам спалучае ў сабе строгі акадэмізм, нават класічнасць з неардынарнасцю мыслення, амаль дзіцячай гарэзлівасцю, жартаўлівасцю, іскрамётным пачуццём гумару, дасціпнасцю. Цяжка зразумець, чаго больш у выказваннях Анатоля Пятровіча — дакладнасці ці шматзначнасці. Ён як дыямент, і кожны знаходзіць і любуецца ў ім сваёю гранню.

Мяне не пакідае ўражанне, што гэты чалавек — яркая асоба, значная для Беларусі — усведамляе, як трэба жыць для вечнасці.

Прафесар Грыцкевіч — энцыклапедыст, які сказаў безліч новага пра феадальную Беларусь, пра Рэч Паспалітую як федэрацыю дзвюх раўнапраўных дзяржаў — Кароны і Вялікага Княства Літоўскага, пра Беларусь часоў грамадзянскай вайны, пра маю дарагую Случчыну, пра гісторыю беларускай культуры, пра генеалогію беларускіх і літоўскіх магнацкіх і шляхецкіх родаў, пра рэлігію на Беларусі ў мінулым і сёння і г. д. і г. д. Доктар гістрычных навук, прафесар, загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры, дырэктар грамадскага Беларускага інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, старшыня Згуртавання беларускай шляхты, сябра Вучонай рады Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, правадзейны сябра Маскоўскага гісторыка-генеалагічнага таварыства Анатоль Грыцкевіч пашырае праўдзівае слова пра Беларусь у лекцыях, што часта чытае за мяжой, на міжнародных канферэнцыях у Рыме, Парыжы і Лондане, у Нямеччыне, Польшчы і Літве. Асабліва плённа супрацоўнічае ён з Інстытутам Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў Любліне, з яго дырэктарам прафесарам Ежым Клачоўскім.

Звыш 800 надрукаваных прафесарам прац (а ў іх ліку — і манаграфіі, і зарубежныя публікацыі) далёка не вычэрпваюць яго навуковага досведу. Мне здаецца, што самае важнае Анатоль Пятровіч яшчэ скажа. Скажа важка, аргументавана і ўпэўнена.

Анатолю Грыцкевічу спаўняецца 70 гадоў. І разам з тым яму столькі, колькі яго роду, колькі нашай зямлі. Яго ўзрост аптымальны, каб разам з намі ўдасканальваць сябе і жыццё, уладкоўваць Беларусь. Каб захоўваць, працягваць і пачынаць.

***Любоў Уладыкоўская-Канаплянік,***
*дырэктар Цэнтра імя Ф. Скарыны,*
*кандыдат філалагічных навук*

## БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА XX СТАГОДДЗЯ: ФІЛАСОФІЯ, РЭЛІГІЯ, КУЛЬТУРА / СКЛАД. ЮРЫЙ ГАРБІНСКІ. ВАРШАВА: ІНСТЫТУТ СЛАВІСТЫКІ ПОЛЬСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК, 1998. 740 с.

БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА
XX СТАГОДДЗЯ

Чалавечай натуры ўласціва патрэба належаць да пазнавальнай, даўгавечнай грамадскай супольнасці, якая не нараджаецца і не памірае разам з чалавекам. У часы ўзмоцненай рухомасці людзей, якія пакідаюць родную вёску, дыфузіі калісьці замкнутых этнічных супольнасцей, прыняцця ў склад гістарычных нацыянальнасцей асоб, якія да іх раней не належалі, заспакаенне такой патрэбы стала сёння адной з самых надзённых спраў. Не бачна, каб нястрымны сусветны марш сучаснай цывілізацыі, які без сумнення паслабляе і нівеліруе культурную індывідуальнасць нацый, абавязкова мусіў бы нішчыць эмацыянальную нацыянальную сувязь. Хутчэй наадварот: па ўсёй Еўропе побач з поспехамі інтэграцыі набірае моц будаванне нацыянальных дамоў.

Як вядома, самаасэнсаванне спелага патрыятызму ўзбагачае духоўнае жыццё чалавека, узбуджае індывідуальнае пачуццё годнасці і нацыянальнага гонару дзеля таго, каб справіцца з цывілізацыйнымі выклікамі, ствараць новыя культурныя вартасці. Шмат у чым гэтае асэнсаванне залежыць ад успрыняцця, засваення назапашанага даробку ў галіне нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі (тоеснасці, тоесамнасці).

Чаму ж гэты даробак важны для падобнай ідэнтыфікацыі? Відаць, таму, што за апошнія дзвесце год затрачана нямала часу, каб сфарміраваць акрэсленне нацыі. Эфект, зрэшты, быў мізэрны. Адзінай асэнсаванай высновай з велізарнай колькасці літаратуры на гэтую тэму стала сцвярджэнне, што “нацыя ёсць група, якая хутчэй акрэслівае сама сябе, чым акрэсліваецца іншымі” (1).

Можна нават сказаць, што ў даследаваннях пра нацыі перамог прынцып гуманістычнага каэфіцыента, згодна з якім нельга адэкватна ўявіць сабе грамадскую рэчаіснасць без удакладнення найперш пункту гледжання яго стваральнікаў і ўдзельнікаў.

А якраз нацыянальная (гуманітарная ў першую чаргу) інтэлігенцыя, ідэолагі і правадыры фарміруюць адчуванне нацыі, але, зразумела, пры наяўнасці першаснай нацыянальнай тоеснасці. Нехта трапна сказаў, што нацыя — гэта спячая прыгажуня, якую абуджае да жыцця пацалунак нацыянальных ідэолагаў, бо нацыю нельга стварыць з нічога.

Дасюль у беларускага чытача не было магчымасці ўспрыняць разам, як адно цэлае, тыя меркаванні, што былі выказаны ў розны час пра нацыянальную тоеснасць беларускай нацыі яе лепшымі прадстаўнікамі. Гэты вакуум запаўняе складзеная Юрыем Гарбінскім анталогія “Беларуская думка XX стагоддзя: Філасофія, рэлігія, культура”, выдадзеная летась у Варшаве на беларускай, рускай і польскай мовах. Тут сабраны працы беларускіх мысліцеляў, праваслаўных і каталіцкіх дзеячаў, пісьменнікаў, навукоўцаў, публіцыстаў, палітыкаў, што вырашаюць геапалітычныя праблемы і пытанні. У кнізе прадстаўлены іх канцэпцыі і меркаванні пра Беларусь як цэнтр культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння Усходу і Захаду.

Асаблівая ўвага ў працах, што прадстаўлены ў анталогіі, удзяляецца вызначэнню нацыянальна-цывілізацыйных асноў беларускага этнасу, нацыі. Разглядаюцца ключавыя фактары фарміравання і этапы развіцця нацыянальнай самасвядомасці.

Значнае месца ў кнізе займаюць праблемы рэлігійнай раз’яднанасці беларусаў. Аналізуюцца вынікі шматгадовага аналітычнага і практычнага пошуку культурна-нацыянальнага сінтэзу, асэнсавання ролі праваслаўя, рыма-каталіцтва і грэка-каталіцтва (уніі) у гісторыі беларускай нацыі і ў працэсах этнічнай і нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў.

Варта адзначыць, што большасць сабраных у кнізе тэкстаў была першапачаткова надрукавана ў тых беларускіх і польскіх выданнях, якія практычна застаюцца недасягальнымі для сучаснага чытача як ў Беларусі, так і за яе межамі.

Тэксты аўтараў, напісаныя ў розныя гады, і сёння гучаць актуальна. Пачынаецца кніга з артыкулаў А. Луцкевіча, сярод якіх вылучаецца праца “Беларусь і Расея” (1918). Варта вылучыць артыкулы А. Стаповіча “Фактары асіміляцыйнага працэсу” (1931), В. Іваноўскага “Спольшчаныя і змаскоўшчаныя” (1941). Перадрукаваны артыкулы Ю. Хадыкі “Беларуская нацыянальная ідэя на мяжы двух стагоддзяў” (1995), З. Пазьняка “О русском империализме и его опасности” (1993). Упершыню апублікавана даследаванне У. Конана “Беларуская нацыянальная ідэя: гістарычны аспект і сучасныя праблемы” (1997). Перадрукаваны першы канцэптуальны агляд станаўлення беларускага нацыянальнага светапогляду Ігната Канчэўскага “Адвечным шляхам” (1921). Гэта — сапраўды класічны твор.

Шмат якія працы (а ў анталогіі прадстаўлены прыкладна шэсцьдзесят аўтараў) вартыя таго, каб іх перадрукаваць у перыядычным друку, бо не да кожнага гэтая карысная кніжка дойдзе.

Трэба таксама адзначыць малады ўзрост многіх аўтараў. Некаторыя абагульняючыя артыкулы, што дэманструюць высокую дасведчанасць і эрудыцыю іх

творцаў, напісаны трыццацігадовым Антонам Луцкевічам, дваццаціпяцігадовым Максімам Багдановічам і Ігнатам Канчэўскім. Каб і сёння нашы маладыя рупліўцы беларушчыны выступалі з падобнымі дасканалымі публікацыямі — ото было б добра!

Не маю сумненняў, што анталогія “Беларуская думка XX стагоддзя” можа стаць настольнай кнігай для кожнага свядомага беларуса, умацаваць яго ўпэўненасць у слушнасці сваіх поглядаў. А калі б яшчэ кожны ўладальнік кнігі распаўсюдзіў бы яе палажэнні сярод блізкіх, сяброў, вучняў, то гэта дапамагло б тым, хто яшчэ не знайшоў свайго месца ў нацыянальным адраджэнні, зрабіць гэта, няхай і са спазненнем.

***Валянцін Грыцкевіч**, дацэнт Санкт-Пецярбургскага інстытута культуры*

---

(1) Connor W. The Quest for Understanding: Ethnonacionalism. Princeton, 1994. P. 94.

## РУНОСУКЭ КУРОДА. ЧАСТОТНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ. 1500 СЛОЎ. ТОКІО, 1998. 171 С.




Чытач, знаёмы з серыяй беларускіх частотных слоўнікаў Н. Мажэйка і А. Супруна (два з іх названы ў спісе літарараратуры, змешчаным у прадмове да кнігі), можа падумаць, што і ў выдадзенай у Токіо ў выдавецтве “Дайгакушорын” лексікаграфічнай працы прыняты метад фрэквенцыйнай падачы матэрыялу. Аднак, папраўдзе, кніга вядомага японскага славіста складаецца з беларуска-японскага і японска-беларускага перакладных слоўнікаў (падрыхтаваных, натуральна, з улікам частотнага параметра), а таксама з кароткіх раздзелаў, у якіх выкладзены некаторыя асаблівасці беларускай фанетыкі і марфалогіі. Чытач знойдзе ў працы і сціслы нарыс беларуска-рускіх фанетычных і марфалагічных адрозненняў. Пры ўсёй кароткасці кнігі Руносукэ Курода ў ёй, тым не менш, дакладна зафіксаваны асноўныя асаблівасці беларускай мовы. Так, у лексікаграфічнай частцы кнігі ў беларускіх словах пазначаны націск, паказваецца словаўтварэнне (*аснова – асноўны, малады – маладосць*), звяртаецца ўвага на трывальныя пары дзеясловаў (*канчацца – кончыцца*), прыводзяцца сінонімы і варыянты (*граніца – мяжа – рубеж; серабро – срэбра; інтарэс – цікавасць*). У граматычных раздзелах працы ў тым ліку звернута ўвага на спецыфіку ўжывання ў беларускай мове дзеепрыметнікаў, сінтаксічных канструкцый накшталт *пайсці ў грыбы, смяяцца з яго* і інш.

Як першая праца падобнага тыпу кніга Руносукэ Курода з'яўляецца каштоўным укладам у лінгвістыку. Яна, несумненна, будзе спрыяць развіццю беларусістыкі ў Японіі.

***Сяргей Запрудскі**, кандыдат філалагічных навук*

## KSIĘGA CUDÓW PRZED IKONĄ MATKI BOŻEJ W STARYM KORNINIE DOKONANYCH / PRZ. I WST. A. MIRONOWICZ. BIAŁYSTOK, 1997. 201 s.




Выданне, падрыхтаванае А. Мірановічам, змяшчае факталогію бытавання цудадзейнай іконы Божай Маці ў адным з куткоў Вялікага Княства Літоўскага, ахопліваючы пры гэтым мясцовыя падзеі XVI–XVIII стст. Ікон такога роду на землях Беларусі вядома каля 50, само іх існаванне лічыцца пачэснай, шчаслівай узнагародай. Таму прыемна адзначыць з'яўленне такой кнігі — дакладнага гістарычнага дакумента, матэрыяльнага пасведчання таго натуральнага духоўнага жыцця, што натхняла тутэйшых жыхароў.

Аўтар выконвае даследаванне на мяжы навукі і рэлігіі, дзе патрабуецца асаблівае спалучэнне аналітычнасці і духоўнай чуласці. Магчыма, менавіта такая адказнасць абумовіла пэўную стрыманасць аўтара ў асэнсаванні і асабістай адзнацы дакументальнай спадчыны, адлюстраванай у кнізе. І гэта не дзіўна, бо ў сучаснасці даследчы напрамак марыялогіі, у дачыненні да Беларусі, ледзь адлюстраваны. І гэта пры тым, што іконы Маці Божай прысутнічаюць у кожным храме, у хаце кожнага верніка. Таксама ўражвае і факт існавання ў Беларусі шматлікіх цудадзейных ікон, тры з якіх, паводле паданняў, напісаны самім евангелістам Лукой, што, такім чынам, звязвае наш край непасрэдна з вытокамі Хрыстовай веры і, разам з гэтым, мае непараўнальны гістарычны грунт.

Аднаўленне вывучэння "невядомай" тэмы — беларускай марыялогіі адбываецца практычна ў апошнія часы. Адпаведныя працы можна літаральна пералічыць па пальцах. Гэта — даследаванні А. Яскевіч, Ю. Піскуна, І. Шалінай, і асабліва — кніга У. Завальнюка "Гісторыя будслаўскай базылікі". Грунтоўнае выданне А. Мірановіча займае пачэснае месца ў гэтым пераліку.

"Кніга цудаў" уключае аўтарскі ўступ і дакументальную частку. Ва ўступе падаецца агляд тагачаснай сітуацыі ў ВКЛ, той гістарычны фон, на якім існавалі мясцовыя культавыя цэнтры. Фон гэты часам складаны, нават

трагічны. Як ураўнаважанне яго разглядаюцца абставіны з'яўлення культавых цэнтраў, менавіта ў дачыненні да высокай асобы Божай Маці. Натуральна вылучаецца роля іконы ў рэлігійным жыцці і надзвычай ганаровы змест цудадзейнай іконы. Асаблівую ўвагу аўтар надае апавяданню аб бытаванні культавага цэнтра шанавання Божай Маці у Старым Корніне, што на Беласточчыне.

Дакументальная частка змяшчае менавіта архіўную "Кнігу цудаў" XVIII ст. Старакорнінскага храма з цудадзейнай іконай Божай Маці. Гэта істотны грунт, бо, па канфесійных нормах, цудадзейнасць іконы вылучаецца менавіта шляхам выразным, відавочным і часцей за ўсё — праз пазбаўленне чалавека ад надзвычайных абставін, якія той не здолеў вырашыць іншым чынам. Такія дакладныя пасведчанні друкаваў, у прыватнасці, Супрасльскі манастыр, куды ў 1727 г. і быў дасланы дадзены дакумент, выдадзены нарэшце А. Мірановічам. Сведчанні цудадзейнасці ў Старакорнінскай "Кнізе цудаў" аб ратаванні жыхароў ВКЛ асабліва ўражваюць побач з наступнай гістарычнай адзнакай: "Единственными мерами правительства против эпидемий в XIV–XVIII вв. были заставы на дорогах, сжигание одежды, а нередко — и жилищ умерших. Духовенство призывало население совершать крестные ходы, строить церкви и усердно молиться" (Минько Л. И. Народная медицина Белоруссии). Апошні тэзіс прыведзенай адзнакі, які дагэтуль атэістычна адвяргаўся як бессэнсоўны, набывае дакладна рэалістычны змест у дачыненні да разглядаемай, а таксама і іншых "Кніг цудаў".

Дакументальны матэрыял, напэўна, прыцягне ўвагу розных даследчыкаў, паколькі змяшчае таксама дадзеныя па медыцыне, геаграфіі, анамастыцы, генеалогіі. Дарэчы, геаграфічны паказальнік выдання можна было б пашырыць мясцовай картай, а таксама дапоўніць паказальнікам імёнаў. Але гэта толькі сціплая заўвага да грунтоўнага, старанна апрацаванага выдання, якое было здзейснена дзякуючы Беларускаму гістарычнаму таварыству ў Беластоку пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы і гарадской адміністрацыі Беластока. Такім чынам, дадзеная "Кніга цудаў" уяўляе сабой годны прыклад узаемаразумення і сапраўды роднасных адносін народаў Польшчы і Беларусі.

У заключэнне можна зазначыць, што выданне "Кнігі цудаў, якія адбыліся перад іконай Маці Божай у Старым Корніне" — падзея жаданая і доўгачаканая не толькі для людзей веруючых і навукоўцаў, але і для ўсіх жыхароў Беларусі. Гэта выдатны прэцэдэнт звароту да тэмы, ледзь адлюстраванай даследчыкамі, але вельмі адметнай у бытаванні мясцовых жыхароў — тэмы шанавання Божай Маці. Пажадана, каб кніга гэтая стала на пачатку адпаведнага шматтомнага пачэснага выдання.

***Сяргей Віцязь**, навуковы супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## ПЕРШЫ ВОДГУК

### РАДАВОД: ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНЫ, КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ. 1998. № 1.

У Брэсце нядаўна пабачыла свет новае перыядычнае выданне Беларусі — штомесячны гісторыка-літаратурны і краязнаўчы часопіс Берасцейшчыны "Радавод". Яго заснавальнік і галоўны рэдактар — вядомы беларускі кнігавыдавец Сяргей Лаўроў.




Часопіс выдаецца пры дапамозе Брэсцкага абласнога ўпраўлення культуры, Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Брэсцкай вобласці, а таксама аддзела адукацыі Брэсцкай вобласці.

Часопіс будзе выдавацца на мове аўтарскіх арыгіналаў — пераважна на беларускай і рускай мовах (хаця не выключаецца магчымасць публікацый на польскай і ўкраінскай мовах). Аднак адразу можна заўважыць, што ў першым нумары "Радаводу" назіраецца відавочны "моўны перакос", бо абсалютная большасць усіх матэрыялаў надрукавана на рускай мове. У прадмове рэдактара адзначаецца, што адной з галоўных задач калектыву рэдакцыі з'яўляецца цікавы і займальны расказ аб розных праблемах развіцця Брэстчыны ў мінулым і ў сучасны перыяд. Да зацікаўленай размовы запрашаюцца ўсе тыя, каму неабыякавы лёс роднага краю, хто самастойна вывучае гісторыю свайго горада, раёна, вёскі і г. д.

У часопісе выдзяляюцца наступныя рубрыкі: "Імёны", "Экспанат", Абараняючы дзяржаву", "Обучая — обучаюсь", "Літургія", "Vivat, Academia!", "Anima", "Memoria" і інш. Як бачна з назваў рубрык, у выданні друкуюцца і далей будуць друкавацца разнастайныя матэрыялы, прысвечаныя славутым дзеячам Берасцейшчыны, пытанням гісторыі адукацыі, сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага, канфесійнага і духоўна-культурнага развіцця рэгіёна, методыкі выкладання вучэбных дысцыплін гуманітарнага цыкла. Акрамя таго, у рэцэнзуемым выданні ёсць і літаратурны раздзел "Крэсіва", дзе змешчаны паэтычныя і празаічныя творы аўтараў з Брэстчыны.

У цэлым першы нумар новага часопіса, на шчасце, не выйшаў "камяком", як гэта нярэдка бывае, а, наадварот, аказаўся даволі змястоўным і цікавым. Адзінае, што, відаць, не можа парадаваць усіх зацікаўленых чытачоў, — гэта невялікі

тыраж дадзенага часопіса і яго распаўсюджанне пакуль толькі на тэрыторыі Брэста і вобласці. На заканчэнне хацелася б пажадаць рэдакцыйнаму калектыву плённай працы і творчых поспехаў у справе даследавання і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны такога адметнага і прыгожага беларускага краю, як Берасцейшчына.

***Эдуард Дубянецкі**, кандыдат гістарычных навук*

## НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банькоўскі-Цюліг** (Швейцарыя), **Герман Бідэр** (Аўстрыя), **Віталь Зайка** (ЗША), **Мікола Ількевіч** (Расія), **Віялета Козарава** (Балгарыя), **Леакадзія Мілаш** (Літва), **Адам Мальдзіс**, **Таццяна Махнач**, **Таццяна Пятровіч**, **Вячка Целеш** (Латвія), **Міхал Швэдзюк** (Вялікабрытанія), **Сакрат Яновіч** (Польшча).*

### АЎСТРЫЯ

**Bieder Hermann**. (Salzburg). Burger Hannelore. Sprachenrecht und Sprachengerechtigkeit im österreichischen Unterrichtswesen 1867–1918. Wien 1995: [Рэц. аўстрыйскага беларусазнаўца] // Zeitschrift für Neuere Rechtsgeschichte. 1998. Nr 1–2. S. 145–147.

**Diedrich Hans-Christian**. Evangelische Christen in Weißrußland: Bericht über eine Visitationsreise im August 1998 // Glaube in der 2. Welt: Zeitungschrit für Religionsfreiheit und Menschenrechte. 1998. Nr. 11. S. 27–30.

**“Einigkeit** macht stark!”: Interview der Kirchenzeitung “Orthodoxes Moskau” mit Metropolit Filaret von Minsk und Sluzk // Glaube in der 2. Welt: Zeitungschrit für Religionsfreiheit und Menschenrechte. 1998. Nr. 11. S. 21.

**Grycz Wolfgang**. Katholiken in Weißrußland: Noch polnisch oder schon weißrussisch? // Glaube in der 2. Welt: Zeitungschrit für Religionsfreiheit und Menschenrechte. 1998. Nr. 11. S. 22–26.

**Grycz Wolfgang**. Weißrußland — Land ohne Identität? // Glaube in der 2. Welt: Zeitungschrit für Religionsfreiheit und Menschenrechte. 1998. Nr. 11. S. 13–16.

**Stricker Gerd**. Orthodoxie in Weißrußland: Im Spannungsfeld zwischen der Bindung an Moskau und Eigenständigkeit // Glaube in der 2. Welt: Zeitungschrit für Religionsfreiheit und Menschenrechte. 1998. Nr. 11. S. 16–20.

### БАЛГАРЫЯ

**Янишчиц Явгения.** Твоето присъствие / Стиховете прев. от бел. Найден Вълчев, Зоя Василева, Христо Попов, Янко Димов. София, 1998.

### БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Астапенка Анатоль**. Хрысціянства і нацыяналізм // Маладосць. 1998. № 11. С. 221–235.

**Барвенава Ганна**. Святло, якое яднае: [Пра фестывалі нацыянальных культур у Гродне] // Мастацтва. 1998. № 12. С. 27–29.

**Белицкий В. Ф., Орлов Л. П.** Программа ТАСИС в Беларуси: проблемы и перспективы // Вестн. Фонда фундаментальных исследований. 1998. № 2. С. 19–27.

**Глушаков И. В.** Мировая художественная культура: Учеб. пособие. Минск, 1998.

**Граков И. Г**. Подготовка магистров управления бизнесом за рубежом // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 9. С. 94–107.

**Гулак Настасся**. “Пацёмкінскія вёскі” славянафілаў // Спадчына. 1998. № 5. С. 3–16.

**Гуманистическое** формирование личности в современных условиях: Сб. науч. ст. Минск, 1998.

**Катовіч Таццяна**. Стылявая парабала сэнсу, ці “Як пажадаеце”: Міжнародны фестываль “Славянскія тэатральныя сустрэчы – 98” у Гомелі // Мастацтва. 1998. № 10. С. 6–13.

**Кибрет А. Ш**. Государственное обеспечение и регулирование внешнеэкономической деятельности в странах Африки // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1998. № 4. С. 155.

**Кулакоўскі Юры**. “Беларусь павінна стаць у шэраг цывілізаваных краінаў свету!..”: [Інт.] / Зап. А. Гібок-Гібкоўскі // Беларусь. 1998. № 11. С. 12–13.

**Кунцэвіч Зінаіда, Чэчат Аляксандр**. Барацьба Вялікага Княства Літоўскага з крыжацкай агрэсіяй: Інтэграваны ўрок-семінар // Роднае слова. 1998. № 11. С. 99–106.

**Курс Сьвятлана**. Хельсінкскі камітэт: “У нашай краіне амаль няма шчасьлівых людзей” // Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў: Бюлетэнь. 1998. № 7. С. 10–11.

**Лабачэўская Вольга**. На славянскім базары… На славянскім кірмашы [у Віцебску] // Мастацтва. 1998. № 12. С. 7–12.

**Лукашэвіч Станіслаў**. Каўказскія нататкі: [Працяг. Пачатак у № 6, 1998 г.] // Падарожнік. 1998. № 7. С. 5–10.

**Михайлова Н**. Объединила любовь к Отчизне: [Матэрыялы пра А. Міцкевіча і А. Пушкіна] // Бел. думка. 1998. № 12. С. 153–158.

**Развитие** психологии личности и педагогических проблем социальной психологии: Материалы […] конф. Минск, 1998.

**Розанов А**. К Хартии безопасности для новой Европы // Бел. думка. 1998. № 10. С. 120–128.

**Садаўнічы Эдуард**. Паэмы “Энеіда навыварат” і “Тарас на Парнасе”, іх месца ў новабеларускай літаратуры: У параўнанні з творамі “Боская камедыя” Дантэ, “Дон Кіхот” Сервантэса, “Фауст” Гётэ // Роднае слова. 1998. № 10. С. 21–29.

**Тоттон М**. От Тридентского собора до наших дней // Дыялог (Баранавічы). 1998. № 9. С. 23–24.

**Янчук В. А**. Проблема социального объяснения в современной зарубежной социальной психологии // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 9. С. 38–49.

### • Беларусь – Аўстрыя

**Ады Поль**. “Вершнасць” этыкі [Людвіга Вітгенштайна] // Крыніца. 1998. № 7. С. 72–77.

**Булгакаў Валерка**. Пяць каментароў да філасофіі Людвіга Вітгенштайна // Крыніца. 1998. № 7. С. 78–87.

**Вітгенштайн Людвіг**. Аб імавернасці / Пер. з ням. В. Булгакава // Крыніца. 1998. № 7. С. 63–83.

**Дэлякампань Крыстыян**. Гісторыя аднаго адмаўлення: [Пра аўстрыйскага пісьменніка Людвіга Вітгенштайна] // Крыніца. 1998. № 7. С. 63–71.

### • Беларусь – Балгарыя

**Титова Е. Т**. Национальный научный фонд Болгарии // Вестн. Фонда фундаментальных исследований. 1998. № 1. С. 37–42

**Шивачева Веска** (Балгарыя). Целеполагание — важная проблема в обучении учащихся химии // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 11. С. 24–26.

### • Беларусь – Бразілія

**Амаду Жоржы**. Мёртвае мора / Пер. з парт. В. Буйвала // Крыніца. 1998. № 9. С. 54–66.

**Буйвал Валеры**. Замест пасляслоўя: Пад ветразем вяртання: [Пра бразільскага пісьменніка Жоржы Амаду] // Крыніца. 1998. № 9. С. 65–66.

### • Беларусь – Ватыкан

**Бараноўскі Ігар**. Ватыканскае Радыё: Каб было чутным біццё сэрца Царквы // Царква. 1998. № 3. С. 6.

**Józefowicz W**. Słowa Ojca Św. w języku białoruskim: [Пра кнігу “Пераступіць парог надзеі” ў перакладзе Х. Лялько] // Głos znad Niemna. 1998. 16 paźdz.

**Malinowska Natalia**. Pierwsza pielgrzymka z Białorusi do Rzymu: Na spotkanie z Papieżem // Głos znad Niemna. 1998. 16 paźdz.

### • Беларусь – Венгрыя

**Гильен З**. Роль Венгерского фонда научных исследований в поддержке фундаментальных наук // Вестн. Фонда фундаментальных исследований. 1998. № 2. С. 32–39.

## • Беларусь – Вялікабрытанія

**Адукацыя** і здароўе нацыі (час. “Economist”, 1997 г., Вялікабрытанія) // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 10. С. 88–96.

**Головачёв В.** Номинативный аспект семантики адъективных компаративных фразеологизмов современного английского языка // Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі. Гомель, 1998. С. 202–204.

**Капёнкіна Вольга**. Карціна ў свеце карцін: [Пра англійскую мастацкую фатаграфію] / Пер. з рус. // Мастацтва. 1998. № 9. С. 40–44.

**Кивака Е.** Воля к жизни: (Д. Дефо “Робинзон Крузо”) // Вступая в мир литературы: Пособие для учителя. Брест, 1998. С. 72–77.

**Кэннел Питер**. Шекспир: Главы из книги: Его сладостные сонеты / Пер. Л. Габасовой // Всемир. лит. 1998. № 9. С. 145–157; № 10. С. 137–150; № 11. С. 175–189.

**Ладуцька Ірына**. Людзі і мышы: [Аб спектаклі ў тэатры імя Янкі Купалы па п’есе англ. драматурга Джона Патрыка “Дарагая Памэла”] // Мастацтва. 1998. № 9. С. 26–27.

**Никончук А. С**. Шкала социального функционирования (HSF) [габрэйскага вучонага] Хаймлера в практике социальной работы // Сацыяльна-педагагічная работа. 1998. № 3. С. 29–43; № 5. С. 64–73.

**Степанов В. А**. История становления и современное состояние школьной системы Великобритании // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 11. С. 65–78.

**Черкас Е.** Об особенностях функционирования субстантивных ФЕ положительной характеристики лица в тексте английской художественной прозы // Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі. Гомель, 1998. С. 225–228.

**Элиот Томас Стернз**. Основы христианского общества / Пер. Б. Андреева, И. Макаровой // Всемир. лит. 1998. № 9. С. 159–175.

## • Беларусь – габрэі

**Катовіч Таццяна**. Графічныя рэльефы адлюстравання, або Гульня ў каханне і смерць: [Пра спектакль “Тайбэлэ і яе дэман” па п’есе лаўрэата Нобелеўскай прэміі І. Зінгера і І. Фрыдмана ў Тэатры імя Якуба Коласа] // Мастацтва. 1998. № 9. С. 16–18.

## • Беларусь – Германія

**Андреев В. И**. Школьное образование в Германии: современность и тенденции // Адукацыя і выхаванне. 1998. № 11. С. 53–65.

**Андреев В. И., Латыш Н. И.** Развитие профессионального образования в ФРГ: Уроки для Беларуси. Минск, 1997.

**Белякова Л**. Зеленая неделя в Берлине // Бел. думка. 1998. № 12. С. 145–152.

**Грушавы Генадзь, Хомаер Бурхардт**. Сумесная Дэкларацыя Беларускага дабрачыннага фонду “Дзецям Чарнобыля” і Ўсегерманскай асацыяцыі Чарнобыльскіх ініцыятываў (BAG) // Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў: Бюлетэнь. 1998. № 8. С. 9–13.

**Грыбаў Міхась**. Германія: праз 50 гадоў: Запіскі былога остарбайтэра // Маладосць. 1998. № 11. С. 202–220.

**Ліс Арсень**. Лірыка Хведара Ілляшэвіча [беларускага паэта, які загінуў у Германіі] // Полымя. 1998. № 11. С. 241–257.

**Мелих Ш**. Фонд имени Александра фон Гумбольдта на службе международного научного обмена // Вестн. Фонда фундаментальных исследований. 1998. № 2. С. 51–54.

**Ратабыльская Тацццяна**. Беларуска-нямецкія тэатральныя сувязі // Мастацтва. 1998. № 12. С. 35–38.

**Schulschenko A.** Lesebuch: Ökologie in Deutschland. Nowopolozk, 1997.

## • Беларусь – Грузія

**Тварадзе Реваз**. Путь постижения: [Пра Галакціёна Табідзе] // Всемир. лит. 1998. № 10. С. 133–135.

## • Беларусь – Грэцыя

**Шамякіна Тацццяна**. Культура Антычнай Грэцыі // Роднае слова. 1998. № 10. С. 143–150; № 11. С. 159–167.

